Мікола Шыла

# А што далей

1948

Браўншвайг

МІКОЛА ШЫЛА
Сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

# А ШТО ДАЛЕЙ?

/ Кароткі нарыс узаемаадносінаў сярод беларускай эміграцыі /



1948

Браўншвайг

## А ШТО ДАЛЕЙ?

/Кароткі нарыс узаемаадносінаў сярод беларускай эміграцыі/

Умовы, у якіх разьвівалася беларускае нацыянальнае жыцьцё ў апошніх дзесяцігодзьдзях, сучаснае міжнароднае палітычнае палажэньне, урэшце, пасіленьне барацьбы паміж заходнімі дэмакратыямі на чале з Амэрыкай і Англіяй і таталітарным Усходам на чале з Савецкім Саюзам, -- усё гэта не засталося бяз уплыву і на ўзаемаадносіны паміж нашай беларускай эміграцыяй. Стан эміграцыі вельмі важны для кожнага народу, асабліва-ж важны ён для нашага народу ў сучасны мамэнт. Таму я наважыўся забраць голас у дачыненьні да некаторых зьявішчаў нашага нацыянальнага жыцьця, каб знайсьці адказ на важныя для будучыні нашага нацыянальнага існаваньня пытаньні.

Перш за ўсё неабходна высьвятліць, ці ўзьнікшая ў беларускім эміграцыйным грамадзтве барацьба зьяўляецца ў пэўнай меры адбіцьцём сёньняшняй барацьбы ў грамадзтвах іншых народаў? Трэба зазначыць, што ў сёньняшнім змаганьні, якое адбываецца на нашых вачох у сьвеце, галоўнымі прычынамі яго зьяўляюцца не столькі дзьве супроцьлежныя ідэі -- сацыялізму і капіталізму, як аб гэтым бязупынна крычаць бальшавікі, колькі два зусім супроцьлежныя погляды на практычнае ажыцьцяўленьне гэтых ідэяў у грамадзка-дзяржаўным жыцьці. Змаганьне двух сьветапоглядаў -- сацыялістычнага і капіталістычнага -- зьявішча не новае, яно трывае ўжо стагодзьдзі і наглядаецца сёньня амаль ува ўсіх краінах сьвету. Аднак усюды, дзе ў гэтым змаганьні не прымаюць удзел камуністы з-пад знаку Леніна--Сталіна, яно праходзіць спакойна, не пагражаючы народам і дзяржавам няўхільнаю катастрофаю.

Сапраўдныя сацыялісты, вывесіўшыя на сваім сьцягу лёзунг -- свабоды, роўнасьці і братства, зразумела, не могуць станавіцца на шлях гвалту, прымусу і дыктатуры адзінкі або клікі над усімі іншымі, -- у сваім змаганьні за ідэю сацыялізму яны якраз карыстаюцца дэмакратычнымі мэтадамі барацьбы, стараючыся вызваліць адзінку і грамадзтва з атмасфэры сацыяльнай няроўнасьці, эксплёатацыі слабейшага больш сільным ці ўсялякага роду прымусу і гвалту.

Зусім інакш падыходзяць да гэтага пытаньня камуністы наагул, а савецка-сталінскія бальшавікі ў асаблівасьці. За дэвіз - у барацьбе быццам за тыя самыя ідэалы -- свабоды, роўнасьці і брацтва, сталіся -- гвалт, прымус, тэрор ды непадзельнае панаваньне адзінак /камуністаў/ над усімі іншымі. Такім чынам, у сваім змаганьні быццам за свабоду грамадзтва, яны нічым ня розьняцца ад так званых фашыстоўскіх ці нацысцкіх сыстэмаў, з якімі яны ў пэўных мамэнтах вядуць змаганьне, але ў пэўных мамэнтах дасканала супрацоўнічаюць /пакт Гітлер -- Сталін, 1939 г./.

Той, хто знаў былую царскую Расею з ие абсалютызмам, сёньня пераканаўся, што савецкая ўлада ня толькі нічым ня розьніцца ад папярэдняй, але, наадварот -- эксплёатацыя савецкім капіталізмам работніцкае клясы пры дапамозе розных стаханаўшчын ды соц-спаборніцтваў, сталася яшчэ горшай. У адносінах да сялянства бальшавікі пайшлі яшчэ далей, бо ўвялі дзяржаўную паншчыну, куды горшую, чым была паншчына пры царскай уладзе.

Пераходзячы да разгляду цікавячага нас пытаньня ўзаемаадносінаў паміж беларускай эміграцыяй, я мушу зазначыць, што ў гэтым пытаньні, існуючыя паміж паасобнымі групамі ці адзінкамі непаразуменьні, сваркі ці барацьба, абсалютна пазбаўлены н"ат ценю нейкага ідэйнага змаганьня, якоеб суадказвала нейкім чынам вышэйразгледжанаму. Усе беларусы бяз вынятку імкнуцца да свае незалежнае, вольнае дзяржавы. Беларускі народ ня мае свае буржуазіі, сваіх капіталістаў, ці фабрыкантаў або абшарнікаў, і дзеля гэтага зусім выключаецца так званае клясавае змаганьне. Беларуская працоўная інтэлігенцыя, беларускі работнік і беларускі селянін -- гэта ня толькі адна кляса, але, можна сказаць, адна сям"я. Беларуская працоўная інтэлігенцыя -- гэта дзеця або беларускага работніка, або беларускага селяніна; усе яны аднолькава былі эксплёатаваныя і паніжаныя чужынцамі: расейцамі, палякамі, бальшавікамі ды немцамі.

Здавалася-б, што ў гэтай, так аднолькавай па свайму сацыяльнаму складу, сям"і павінна панаваць згода ды ўзаемазразуменьне. Аднак, у сапраўднасьці гэтага няма. Чаму? Можна было-б проста вытлумачыць гэтае зьявішча прыказкай, што "няма сям"і бяз вырадка". Аднак, тут, відаць, справа ў прышчэпленых некаторым прадстаўнікам нашага грамадзтва духам часу уплывах таталітарызму.

Знайшліся "вырадкі", якія, будучы значнай меншасьцяй, хочуць сваё верхаводзтва накінуць большасьці, якая 'х ня прызнае за народных "апосталаў". Як ні сумна, уцёрся на эміграцыі для гэтае групы людзей, узяты ад слаўнага нашага племя - крывічоў. Назоў гэты, атрымаўшы выразна груповую ахварбоўку і зьмест, стаўся дзякуючы гэтаму прафанацыяй гэтага слаўнага імя. Аднак, пытаньне самога назову "крывічыны" цяпер ужо сталася быццам неактуальным. Цяпер ужо ніби і няма "крывічоў". Аднак, сутнасьць справы не зьмянілася. Людзі гэтыя ўсё-ж далей трымаюцца сва'х метадаў і тактыкі, імкнучыся гвалтам накінуць сваю волю большасьці. Значыцца, не ў назове справа. Каб дапяць сва'х 'мкненьняў, гэтыя людзі карыстаюцца тымі-ж сродкамі, якія ўжываюць таталітарысты. Шмат фактаў з жыцьця беларускае эміграцыі сьведчыць аб гэтым. Гэты мініятурны таталітарызм зьяўляецца, на мой погляд, толькі вынікам уплыву звонку, занесенага ў наш нацыянальна-грамадзкі арганізм, як ужо зазначана, духам часу. Аднак, які-б ідэалістычны падклад ён ня меў, аб'ектыўна, выходзячы з нашых нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў, гэта - ненармальнае і шкоднае зьявішча. Гэты эмбрыён у сёньняшнім мог-бы прывесьці нас да чысьцейшае дыктатуры ў будучыні, да таго, супроць чаго мы змагаемся. Я не хацеў-бы апынуцца адным польскага палітыка, які, арыштаваны паліцыянтам у першыя дні пасьля абвешчаньня незалежнасьці Польшчы, кінуўся яго абдымаць толькі таму, што гэта быў польскі паліцыянт...

Гэтае хваравітае зьявішча, я пэўны, у нас праміне. Па гэта, аднак, як у кожнай праляве грамадзкага жыцьця, пат - рэбны час. Ці яно праміне само сабой, ці яго трэба будзе зьняць апэрацыйным спосабам, - пакажа найбліжэйшая будучыня. Тымчасам, запісаваўшы стан прыносіць нашай справе вялікую шкоду. Нашыя "дамарослыя" таталісты расьбіваюць усялякую пазытыўную працу, разьбіваюць еднасьць нашага эміграцыйнага грамадзтва і тым асягненьні, якія зрабіў увесь беларускі народ шляхам доўгага і крывавага змаганьня. Для іх "высокіх метаў" ня існуюць, як відаць, ні аўтарытэты, ні гістарычная праўда, ні аб'ектывізм, ні, урэшце, абавязваючая ў кожным здаровым грамадзтве этыка.

У 'мя праўды я хачу падрабязьней опыніцца на ананімовай адозве, якая выйшла друкам 10.2.48 г., падпісаная гэтак званым эміграцыйным сэкт.рам БНЦ; адозва гэтая скіравана, галоўным чынам, супроць Прэзыдэнта Беларускае Цэнтральнае Рады праф. Р. Астроўскага, Міжлягэрнай Рады і усіх тых, хто ня з "крывічамі".

Чаго-ж толькі яны не напісалі? Увесь свой выпрактыкаваны лексікон іхнае "мастацкае літаратуры" вылілі на праф. Р. Астроўскага. Прыдумаць болей ужо няма чаго. Хіба, застаецца яшчэ толькі абвінаваціць Р. Астроўскага ў людаедзтве ды пераконваць саміх сябе, што Р. Астроўскі кожны дзень на сьнеданьне замест кавы п'е людзкую сьвежую, яшчэ цёплую кроў ды закусвае малымі дзіцяткамі...

Ужо адно тое, што "дзеячы" БНЦ выступаюць ананімова, даволі сьведчыць аб іх маральным абліччы. На падобны ананім можна было-б не рэагаваць, калі-б ён не датычыў справы агульна-грамадзкай ды, каб невядома было, хто ўкрываецца пад "фірмай" БНЦ. Я маю адвагу адкрыта спыніцца над гэтай адозвай перад усім беларускім грамадствам, бо мне дакладна ведамы ўсе падзеі беларускага жыцьця на працягу некалькіх апошніх дзесяткаў гадоў.

У імя праўды лічу сваім абавязкам разглядзець гэты ананім.

1/ БНЦ зазначае, "што з увагі на супрацоўніцтва Беларускае Цэнтральнае Рады з немцамі, а, галоўнае, з увагі на цеснае супрацоўніцтва самога Р. Астроўскага з немцамі", БНЦ нічога супольнага з Р. Астроўскім ня меў.

Я маю фотакопіі дакумантаў, пісьмы і расьпіску сяброў БНЦ, катрыя сьцьвярджаюць, што БНЦ увосень 1945 г. /кастрычнік/ атрымаў ад Р. Астроўскага 16.692 РМ.

2/ У кніжцы, выданай НКВД, а знойдзенай у Менску ў 1941 годзе ў г. зв. "Доме Правительстца", пад назовам "Заключительное обвинение по делу Белорусской Закордонной шпионской организации и Белорусского Центра" бальшавікі даводзяць, што Р. Астроўскі, паслы Польскага Сойму Б. Тарашкевич, П. Мятла, С. Рак-Міхайлоўскі і інш. сябры Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады ў часе 1926 — 28 г.г. былі агентамі тайнае польскае паліцыі ды дзеялі ў бок адарваньня Усходняе Беларусі ад СССР і далучэньня яе да Польшчы.

Польская Пракуратура на працэсе Грамады ў Вільні /22.2 — 22.5.1928 г./ абвінавяціла Р. Астроўскага, Б. Тарашкевіча, С. Рака-Міхайлоўскага, П. Мятлу, П. Валожына і інш. як камуністаў, якія дзеялі ў бок адарваньня Заходняй Беларусі ад Польшчы ды далучэньня яе да СССР.

БНЦ пастанавіў у сваім пашквілі скарыстаць аднячасна

дзьве гэтыя тэзы.

/Перадічаньня тут пасли Грамады згінулі і савецкіх концлягерох на Салаўках/.

У 1939 г., пасьля "вызваленьня" Заходняй Беларусі, бальшавікі, не знайшоўшы ў Вільні праф. Р. Астроўскага, арыштавалі ягоную жонку і сына і вывезьлі ў концлягеры. Там, у 1941 г., жонка Р. Астроўскага згінула, а сын, уцёкшы з савецкага концлягеру "Ухта Ижэмская", пайшоў на саюзьніцкі бок у армію і, такім чынам, цяпер знаходзіцца ў Заходняй Эўропе.

А побач з гэтым сёньнешнія найбольш дзейныя сябры ВНЦ, у тым-жа самым часе, у найлепшай згодзе супрацоўнічалі з акупаваўшымі Заходнюю Беларусь бальшавікамі, займаючы не абыякія становішчы. А адзін сябра прыехаў якраз з савецкімі камісарамі з Усходу, як значная пэрсона, "пераўзгадоўваць" "адсталых" заходніх братоў.

Хіба гэтага хопіць!

3/ Уся Беларусь, як Усходняя, так і заходняя, знае Р. Астроўскага, як ідэйнага барацьбіта за вольнасьць і незалежнасьць Беларусі. Таму ён заўсёды і пападаў у колізію з акупацыйнымі ўладамі, адведваючы і расейскія вастрогі /Дзерабінская турма, Крэсты, Пецярбург, 1911 г./, і польскія /Лукішкі ў Вільні і Вронкі пад Пазнанем, 1927--1928 гг./, і, каб не капітуляцыя Нямеччыны, то, напэўна, адведаў-бы і нямецкія кацэты, бо на гэта ўжо заносілася пасьля яго катэгарычнай адмовы далучыцца да Власава.

Астроўскі вядомы беларускаму народу не ад сёньня. Яшчэ ў 1905 г. мы бачым Астроўскага, як дзейнага сябру Беларускай Сацыялістычнай Грамады /Старшыня Слуцкага Аддзелу Грамады/ У 1908 -- 1911 гг. Р. Астроўскі дзейны, як Старшыня Слуцкага Зямляцтва пры Пецярбурскім Унівэрсытэце ды сябра рады аб"еднаных зямляцтваў усяго унівэрсытэту. У 1917 г. Астроўскі ўжо сябра ЦК Грамады і дэлегат ад Менскае губ. на так званае "Московское Государственное Совещание" разам з нябожчыкам праф. Іваноўскім і Бурбісам /жнівень 1917 г./. Ад мая 1917 г. да бальшавіцкае рэвалюцыі /25.10.1917/ Астроўскі -- Паветавы Камісар Ураду Керанскага ды выкладчык, а пасьля і дырэктар 1-е на Беларусі Слуцкае Беларускае Гімназіі /верасень 1917/. Далей бачым Астроўскага, як Міністра Асьветы ў габ. Р. Скірмунта /між іншым, завочна аднагалосна выбранага на гэты пост Радаю Беларускай Народнай Рэспублікі -- 1918 г./.

1919 г. -- Астроўскі змагаецца -- не пашквілямі, як БНЦ, а са зброяй у руках, -- супроць бальшавікоў у радох арміі Дэнікіна / 7 Беларускі полк/.

У 1920 г. Астроўскі ізноў на сваёй роднай Случчыне, дзе і арганізуе першыя кадры Беларускі Вайсковых сілаў, якія ўвосень таго-ж году паднялі слаўнае Слуцкае паўстаньне. Сам Астроўскі з арміяй гэн. Булак-Булаховіча ідзе паўстанцам на помач з боку Лунінца--Мікашэвічы.

У 1921 -- 1923 гг. Астроўскі займае пасаду Інспэктара Амэрыканскага Камітэту помачы дзецям на Заходняй Беларусі, зьяўляючыся найбліжэйшым супрацоўнікам тагочаснага дырэктара Мр. Пэйта, сёньняшняга супрацоўніка б. Прэзыдэнта ЗША мр. Гэрбэрта Гувэра.

1923 -- 1936 гг. -- Астроўскі займае пасаду дырэктара Віленскае Беларускае Гімназіі і Віленскае Беларускае Сэмінарыі імя Фр. Багушэвіча У гэтым часе бачым Астроўскага адначасна найбольш дзейным сябрам шматлікіх беларускіх арганізацыяў: Старшыня Т-ва Беларускае Школы, шырака знанае пад назовам ТБШ, Старшыня Беларускага Дабрадзейнага Т-ва, арганізатар Беларускага Каапэратыўнага Банку і г.д.

Адначасна праф. Р Астроўскі зьяўляецца найбліжэйшым супрацоўнікам праф. Б. Тарашкевіча, пасла польскага сойму і Старшыні Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады -- беларускай усенароднай партыі, якая за 1926 год здолела арганізаваць 121.000 сяброў.

Увосень 1936 г. палякі высяляюць Астроўскага, як "небясьпечнага" беларуса, з пагранічнай паласы ў глыбіню Польшчы /Людзь/, дзе застае яго вайна 1939 г. Ад 1939 да 1941 г. Астроўскі кіруе арганізаваным ім Беларускім Дапамаговым Камітэтам у Людзі. З пачаткам нямецка-савецкай вайны мы бачым Астроўскага ізноў на Бацькаўшчыне, дзе ён выяўляе надзвычайную энергію па арганізацыі адміністрацыйна-гаспадарчага жыцьця ў Піншчыне, Берасьцейшчыне, Меншчыне, Браншчыне, Смаленшчыне ды Магілеўшчыне /1941 -- 1943 гг./, каб з канцом 1943 году ізноў зьявіцца ў Менску, як Прэзыдэнт БЦР.

А цяпер можна спытацца: хто-ж з паноў, ня толькі "дзеячоў" БНЦ, але наагул нас, беларусаў, можа пахва-

ліцца такім грамадзкім і палітычным стажам?

4/ Больш падрабязна затрымаемся на т.зв. "коляборацыі" Астроўскага з немцамі ды яго "паджалімстве", прыпамінаючы пры нагодзе расказ аб гэтым найбліжэйшага супрацоўніка Астроўскага, 1-га віцэпрэзыдэнта БЦР М. Шкялёнка: "16-га сьнежня 1943 г., -- расказвау М. Ш., ёнак, -- беларускі актыў пастанавіў выклікаць у Менск праф. Р. Астроўскага на нараду ў справе арганізацыі Беларускае Цэнтральнае Рады. 20-га сьнежня, на канфэрэнцыі ў Гэнэральным Камісарыяце Беларусі, на становішча Прэзыдэнта БЦР мы з Сабалеўскім высунулі кандыдатуру праф. Р. Астроўскага. Пасьля доўгае дыскусыі праф. Астроўскі згадзіўся, але пад наступнымі варункамі:

1/ Беларуская Цэнтральная Рада будзе мець магчымасьць арганізаваць беларускае войска /БКА/.

2/ Беларуская Краёвая Абарона /БКА/ будзе змагацца толькі з бальшавікамі і толькі на тэрыторыі Беларусі.

3/ Ён прымае функцыі Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады часова, да скліканьня 2-га Усебеларускага Кангрэсу.

Найцяжэйшым пунктам быў Кангрэс, але, урэшце, немцы згадзіліся і на гэта, прымаючы тэрмін -- канец мая -- пачатак чэрвеня."

Другім дакумантальным доказам "паджалімнасьці" Астроўскага будзе яго публічнае выступленьне дня 22-га студзеня 1944 г. пры афіцыйным адчыненьні Беларускае Цэнтральнае Рады.

Гаворачы аб тым, што Беларуская Цэнтральная Рада будзе рэалізаваць ідэал незалежнасьці Беларусі, Астроўскі заявіў, што ён нявольнікам ня быў і ня будзе, "бо-ж няволя заўсёды застаецца няволяй, а кожнае ярмо, ці то будзе польскае, ці бальшавіцкае, ці нямецкае, ці кітайскае, заўсёды муліць шыю". Апошні сказ нямецкая цэнзура пусьціла ў прэсу зьмененым, у такім выглядзе: "Няволя заўсёды застаецца няволяй, а кожнае ярмо муліць шыю" /гл. "Раніца", № 6/168 з дня 6.2.1944 г./.

Праводзячы публічныя мітынгі ў Слуцку, Семяжаве, Баранавічах і Слоніме /ясна, у прысутнасьці ўсіх відаў цывільных і вайсковых уладаў/, Астроўскі дакорна казаў: "Калі-ж мяне пераканаюць партызаны, што толькі яны змогуць вы-

каваць незалежнасьць для Беларусі, то я першы іду ў лес, каб супольна біць і немцаў, і бальшавікоў".

Так вось выглядае ў сьвятле гэтых фактаў "падхалімства" Астроўскага!

5/ Далей разгледзім асобна пытаньні "супрацоўніцтва", "квісьлінгаў" і г. д.

У № 4/7/ "Бацькаўшчыны" з дня 15-га лютага 1948 году "крывічы" далі вясьненьні, хто такія "квісьлінгі", зазначаючы, што "гэта такія здраднікі суверэнных правоў народу і Бацькаўшчыны, якія пайшлі на службу да акупанта", як: Квісьлінг у Нарвэгіі, Пэтэн у Францыі, гэн. Нэдыч у Сэрбіі, Павэліч у Харваччыне, Гаха ў Чэхіі, а на Беларусі налічылі аж трох, не называючы, аднак, па імю!

Якая скромнасьць!.. Відаць, двох захавалі на "дэсэрт", бо-ж аднаго, г.зн. Р. Астроўскага, гэтаю мянюшкаю тыя самыя аўтары назвалі.

Згаджаемся зусім з нашымі працаўнікамі, што Квісьлінг, Гаха, Пэтэн і Нэдыч фармальна павінны разглядацца, як здраднікі свае бацькаўшчыны, бо-ж яны былі грамадзянамі сваіх зусім незалежных і суверэнных дзяржаваў і, паводле абавязуючых законаў, учыніць таго, што яны зрабілі, ня мелі права. Але прышпіліваць праф. Астроўскаму тое самае, што Гаху, Пэтэну ды інш.?.. На гэта маглі пайсьці толькі безадказныя асобы з-пад знаку "крывіцкага" БНЦ!

Па-першае: Астроўскі ня быў грамадзянінам незалежнай Беларускай Рэспублікі, а ні БССР;

Па-другое: будучы фармальна грамадзянінам Польшчы, ён нічога не зрабіў такога, што-б магло кваліфікавацца з абавязуючым у Польшчы да 1939 г. Кодэксам Карным;

Па-трэйцяе: тое, што ён змагаўся з сваім адвечным ворагам -- маскоўскім бальшавізмам, за незалежнасьць свае Бацькаўшчыны, гэта ня толькі яго права, але і абавязак. Прычым, з фармальнага пункту гледжаньня, тут трэба разрозьніваць два мамэнты: а/ Астроўскі, як грамадзянін польскае рэспублікі, змагаецца з бальшавікамі за вызваленьне тае часьці свае Бацькаўшчыны / БССР/, якая не становіла тэрыторыі Польшчы; б/ Астроўскі, як грамадзянін Польшчы, змагаецца з бальшавікамі, акупаваўшымі Заходнюю Беларусь /якая ад 1921 г. уваходзіла у склад Польшчы/, у

тым часе, калі польскае войска было разьбіта і змагацца далей не магло.

У першым выпадку палякам няма ніякае справы да таго, што Астроўскі падстаўляе свой лоб за тэрыторыю, належачую да Польшчы.

У другім выпадку Р. Астроўскі змагаецца за частку свае Бацькаўшчыны, якая да 1939 г. уваходзіла ў склад польскае рэспублікі, у той час, калі польская армія была разьбіта.

Па-чацьвертае: тое, што Астроўскі хацеў далучыць Заходнюю Беларусь да СССР /тэза польскае пракуратуры/, зусім адпадае, бо-ж Астроўскі ўвесь час змагаўся супроць СССР!

Па-пятае: на злучэньне-ж абедзьвюх частак Беларусі ў адно цэлае ў 1941 годзе меў права з дзьвюх прычынаў:

1. У 1941 -- 43 гг. а ні польскае, а ні нават савецкае ўлады на гэтых тэрыторыях ня было;

2. Як бязупынны барацьбіт за незалежнасьць Беларусі -- як свае Бацькаўшчыны, разглядаў і палякаў, і бальшавікоў, і немцаў, як часовых акупантаў.

Усё вышэйадзначанае "супрацоўніцтва" з немцамі адносіцца, зразумела, ня толькі да Астроўскага, але абсалютна да ўсіх беларусаў - грамадзянаў Польскае Рэспублікі, а ў тым ліку і да большасьці сяброў БНЦ.

Пры гэтым трэба разрозьніць паняцьце "супрацоўніцтва" і "працы" для свайго народу пад акупацыяй. Хто-б не акупаваў Беларусь, беларускі народ, а перадусім яго інтэлігенцыя, павінны былі ўзяцца за арганізацыю штодзённага жыцьця: сяляне -- араць, касіць, жаць ды малаціць, настаўнікі -- вучыць дзяцей, лекары -- лячыць, адміністратары -- зьбіраць на ўтрыманьне школаў, бібліятэк, шпіталяў, амбуляторыяў, паліцыі неабходныя грошы і г.д. і г.д.

А што такімі акупантамі Беларусі былі ў 1941 -- 44 гг. немцы, дык гэта толькі прыпадак, такі самы прыпадак, як да 1917 г. былі акупантамі расейцы, 1918 -- 39 бальшавікі і палякі, ад 1939 да 1941 -- бальшавікі, 1941 -- 1944 -- немцы, а цяпер зноў бальшавікі.

Аднак, БНЦ чамусьці лічыць сваім абавязкам узяць "пад сваю апеку" толькі нямецкіх акупантаў, уважаючы, відаць, усіх папярэдніх і сёньнешніх акупантаў за лепшых. Мы такога погляду не падзяляем. За бальшавіцкую акупацыю Беларусі, не ў ваенныя, а ў спакойныя часы, згінула беларусаў у 500 разоў болей, чымся за часоў нямецкае акупацыі ў час вайны. /1941-- 1944 гг./.

Дык бараніць тых, што супрацоўнічалі з бальшавікамі і палякамі, а нападаць на тых, што працавалі для беларускай справы пад нямецкай акупацыяй, начэпліваючы ім "супрацоўніцтва" і нават "квісьлінгоўства" было-б вельмі несправядлівым.

Ясна, што ў асобную групу трэба выдзяліць тых, на шчасьце, ня лічных асобаў, якія, будучы ці то на службе акупанта, ці то самаўрадавых установаў, адзначыліся сваімі нялюдзкімі адносінамі, і ня толькі да беларусаў, а таксама і іншых нацыянальнасьцяў, што апынуліся на тэрыторыі Беларусі. Такія асобы павінны добра прызадумацца над тым, як і чым акупіць свае грахі. Такіх шкоднікаў Беларускі Народ не забудзе, і не ўратуюць іх нават розныя легітымацыі "кацэтнікаў". А якраз такіх і варта пашукаць аўтарам пашквілю БНЦ сярод сваіх...

6/ Пашквіль БНЦ прыпісвае Астроўскаму яшчэ адно злачынства: арганізацыю так зв. "абаронных узброеных вёсак". Дык вось 25.У.1944 г. Прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады пісаў ген. камісару генэралу фон-Готбэргу:

"Я маю весткі, што Слуцкі гэбітскамісар разгортвае шырокую акцыю па арганізацыі ў вёсках "Штуцпунктаў". На канфэрэнцыі 7.5. г.г. я выказаў свой нэгатыўны погляд да гэтае справы. Уважаю, што такая акцыя ёсьць небясьпечная і шкодная. Калі пад націскам пераважаючай сілы партызанаў ня ўстояць пасты Вашае палявое жандармэрыі і паліцыі, то тым больш нічога ня зробяць тут кепска ўзброеныя вёскі. У рэзультаце партызаны з помсты будуць паліць нашыя вёскі ды нішчыць пагалоўна ўсіх жыхароў. Уважаю больш карысным у небясьпечных пунктах паставіць нашыя батальёны БКА, якіх якраз ёсьць даволі ў Случчыне. Як рэгулярныя вайсковыя адзінкі, яны змогуць быць лёгка перакіданы з месца на месца, а калі ім часова пад націскам большае сілы прыдзецца адступіць, дык гэта ня будзе выклікаць помсты бальшавікоў супроць сялян. Таму сёньня прашу Вас даць неадкладна загад Слуцкаму гэбітскамісару спыніць арганізацыю "штуцпунктаў" у вёсках".

6.6.1944 г. ген. Готбэрг паведаміў Прэзыдэнта Астроўскага, што зусім падзяляе яго погляд, выказаны ў пісьме з дня 25.5 у справе абаронных вёсак і што выслаў адпаведныя інструкцыі Слуцкаму Гэбітскамісару. Вось як выглядае гэтая справа ў сьвятле дакумэнтаў. А як жа выглядаюць пры гэтым аўтары злосв[illegible]

Нажаль, сучасны стан майго здароўя не дазволіў мне прывесьці больш дакументальных фактаў, і я карыстаўся толькі тым, што меў у сябе пад рукой. Некаторыя месцы пашквілю /як справа Слуцкай Беларускай Гімназіі/ я лічу наагул ня вартымі высьненьня, бо яны агульна ведамы ўсяму беларускаму грамадзтву.

Але і гэтага, я думаю, хопіць.

Ня гледзячы на цяжкі стан здароўя, я ня мог устрымацца, каб ня выступіць ня толькі ў абарону Р. Астроўскага, якога ведаю асабіста на працягу больш, як 40 гадоў, але і каб палажыць канец агіднай грамадзкай партызаншчыне і проста хуліганству, якое разьядае нашае нацыянальнае жыцьцё на эміграцыі.

## І-ы і ІІ-гі Усебеларускія Кангрэсы.

"Дзенчы" з г.зв. "крывіцкага" лягеру, карыстаючыся тым, што ўжо мала засталося ня толькі ўдзельнікаў І-га Усебеларускага Кангрэсу, але і наагул людзей, якія прыймалі тады актыўны ўдзел ў беларускім вызвольным руху, тэндэнцыйна стараюцца панізіць значэньне ІІ-га Усебеларускага Кангрэсу, даходзячы ў сваіх вузка-групавых разважаньнях аж да недарэчнасьці ды не заўважаючы, што яны якраз падсякаюць той сук, на які хочуць сесьці самі.

Як удзельнік І-га і ІІ-га Усебеларускіх Кангрэсаў, ды, відаць, адзіны яшчэ жывы сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, я лічу сваім нацыянальна-грамадзкім абавязкам здэмантаваць шмат якія сьцьверджаньні нашых "дамарослых" гісторыкаў.

1. Няпраўдаю ёсьць, што І-ы Усебеларускі Кангрэс, які адбываўся ў часе ад 5/18/.12.1917 г. да 18/31/.12.1917г. "абвесьціў наш Край асобным гаспадарствам у форме дэмакратычнае Беларускае Народнае Рэспублікі", як гэта піша пан Н. Недасек у артыкуле "1917 -- 1947 да традыцыйных угодкаў найзвычайнейшых падзеяў нашага нацыянальнага руху" / № 3/6/ "Бацькаўшчыны" ад 8-га лютага 1948 г./.

Але гістарычнаю праўдаю ёсьць, што незалежнасьць Беларусі была абвешчана толькі 25-га сакавіка 1918 г. Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, якая ўтварылася толькі ў лютым 1918 году з Рады Усебеларускага Кангрэсу, дапоўненай дакааптаванымі прадстаўнікамі гарадоў, зем-

стваў, нацыянальных меншасьцяў і палітычных партыяў Беларусі.

2/ Няпраўда таксама, што "мандат кожнага дэлегата І-га Кангрэсу паходзіў з вольных дэмакратычных выбараў, што можна аж прыраўнаць да ангельскай ці амэрыканскай парляментарнай сыстэмы /Н. Недасек, "Бацькаўшчына", 3/6/ -- 8.2. 1948 г./. Але праўда, што мандаты ўдзельнікаў паходзілі ад самых розных беларускіх арганізацыяў і ўстановаў, палітычных партыяў, вайсковых часьцей ды зямляцтваў, а таксама некаторых земскіх і гарадзкіх управаў, уже, праўда, выбраных на дэмакратычных падставах. Гэтым і трэба тлумачыць той факт, што 3/4 дэлегатаў І-га Усебеларускага Кангрэсу прамаўляла з трыбуны па-расейску, а цэлыя групы і зямляцтвы, як, напр., Магілеўскае, "варожа накідаліся на кожнага прамоўцу, які пачынаў гутарыць аб патрэбе беларускай дзяржаўнасьці" / К. Езавітаў, дэлегат І-га і ІІ-га Усебеларускага Кангрэсу, "2-гі Усебеларускі Кангрэс у Менску", "Раніца", № 29/191 з 23.7.1944/.

Гэтым якраз і тлумачыцца тое, што „І-му Усебеларускаму Кангрэсу запатрабавалася аж 12 дзён змаганьня і працы на штодзённых сходах у пленуме і камісіях, каб залагодзіць нутраныя супярэчнасьці паміж нацыянальна-сьведамымі групамі і нацыянальна-нясьведамай масай Кангрэсу і дайсьці да галасаваньня пастановаў аб закладзінах нацыянальна-беларускае дзяржаўнасьці" /К. Езавітаў, там-жа/.

У сваёй бясcільнай злосьці ды нянавісьці да праф. Астроўскага аўтары разгляданае адозвы БНЦ так зарапартаваліся, што кажуць: "ІІ-гі Усебеларускі Кангрэс у найменшай долі ня быў выяўленьнем волі беларускага народу, а толькі выкананьнем волі нямецкіх акупацыйных уладаў за пасярэдніцтвам іхнага вернага слугі Астроўскага". Вось, гэта называецца дагаварыліся! Дык гэта, значыць, немцам і толькі Астроўскаму залежала на тым, каб:

1. Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якая, маючы поўнамоцтвы ад І-га Усебеларускага Кангрэсу 1917 г., на сходзе сваім 25-га сакавіка 1918 г. урачыстай трэйцяй устаўной граматай для Беларускага Народу вырашыла і абвесьціла аб канчальным разрыве дзяржаўных сувязяў з бальшавіцкай Масквой і расейскай дзяржавай ува ўсялякіх яе формах.

2. Пацьвердзіць, што Беларускі народ ніколі ня прызнаваў, ня прызнае і ніколі ня будзе прызнаваць у будучыні за форму свае Беларускае дзяржаўнасьці накінутае яму маскоўскімі захопнікамі формы БССР.

3. Паведаміць усе ўрады і народы сьвету, што ўсялякі го-

лас Масквы і СССР у беларускіх справах ня мае ніякае праўнае сілы, а ўсе твораныя Масквою нібыта беларускія ўрады -- ня маюць ніякіх праўных кампэтэнцыяў, бо не вызнаюцца Беларускім Народам. Таму ўсе ўмовы ці аднабаковыя пастановы ўрадаў СССР, былое Польшчы і сучаснага гэтак званага эміграцыйнага ураду Польшчы, зробленыя дагэтуль, а таксама і ўсе ўмовы, якія могуць быць вробленыя ў будучыні, а якія датычаць тэрыторыі Беларусі і Беларускага Народу, П-гі Усебеларускі Кангрэс абвяшчае ня маючымі праўнае моцы.

4. Адзіным праўным прадстаўнікам Беларускага народу зьяўляецца сёньня Беларуская Цэнтральная Рада з Прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім на чале /з пастановаў П-га Ўсебеларускага Кангрэсу 27.6.1944 г./.

Калі гэта так, дык за што-ж нападаць на немцаў і .. Прэзыдэнта Р.. Астроўскага? Пад гэтымі пастановамі падпісацца кожны беларус.

З усяго гэтага відаць, што высілкі ў кірунку ўневажненьня пастановаў П-га Ўсебеларускага Кангрэсу дарэмныя! Кожны чэсны і сапраўдны беларус павінен, хоча ці ня хоча, аб"ектыўна прызнаць, што Пастановы П-га Усебеларускага Кангрэсу -- гэта сапраўднае выяўленьне волі ўсяго /апрач камуністаў і "крывічоў"/ Беларускага Народу.

Як удзельнік П-га Усебеларускага Кангрэсу, я павінен сьцьвердзіць наступнае:

1. П-гі Ўсебеларускі Кангрэс сваімі пастановамі яскрава адбіў аднадумную волю і імкненьні ўсяго Беларускага народу да незалежна-дзяржаўнага жыцьця.

2. Дэлегаты П-га Ўсебеларускага Кангрэсу мелі ня меншае права прамаўляць ад імя Беларускага Народу, чым дэлегаты І-га Кангрэсу. Інтэлектуальны ўзровень П-га Кангрэсу быў значна вышэйшы ад І-га. На П-ім Усебеларускім Кангрэсе былі прадстаўнікі і сялян, і рабочых, і беларускага войска, і служачых, беларускай інтэлігенцыі ўсіх прафэсіяў, і духавенства ўсіх вызнаньняў, прычым 50 проц. дэлегатаў мелі вышэйшую асьвету, рэшта -- сярэднюю, 7-мі і 5-ці гадовую асьвету.

3. Пастановы Кангрэсу былі аднагалосныя, таму што за 26 гадоў /ад мамэнту І-га Кангрэсу/ у Беларускім Народзе надзвычайна высака ўзрасла нацыянальная сьведамасьць, а ідэя незалежнасьці беларускае дзяржаўнасьці канчаткова пасьпела і ўмацавалася ўва ўсіх пластох Беларускага На-

роду.

4/ Калі-ж аўтары пашквільнае адозвы з радою БНЦ, не згаджаючыся з пастановамі П-га Кангрэсу, не пратэставалі супроць іх, будучы там прысутнымі, то, відаць, не таму, што баяліся немцаў, а таму, што баяліся гневу нарбднага, бо-ж кожнае слова аб незалежнасьці і непадзельнасьці Беларускае Дзяржавы выклікала агульныя, гарачыя ды няспынныя воплескі ўсіх дэлегатаў Кангрэсу.

5. Аўтары пашквілю, хочучы падарваць важнасьць пастановаў П-га Ўсебеларускага Кангрэсу, закідаюць яму, галоўным чынам, тое, што ён быў склікаеы падчас нямецкае акупацыі, забываючы пры гэтым, што Рада Беларускае Народнае Рэспублікік выдала слаўную сваю 3-юю Устаўную Грамату аб Незалежнасьці Беларусі /25.3.1918 г./ таксама падчас нямецкае акупацыі. Дый наагул БНР, як я ўжо зазначыў вышэй, утварылася толькі ў лютым 1918 г., г.зн. тады, калі ўжо ўся Беларусь разам з Менскам была акупавана немцамі /Менск быў заняты немцамі 11-га лютага 1918 г./.

Так выглядае аб"ектыўная гістарычная праўда аб І-м і П-м Усебеларускіх Кангрэсах.

Ня гледзячы, аднак, на тое, што пастановы як Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, так і П-га Усебеларускага Кангрэсу адбыліся падчас нямецкае акупацыі Беларусі, значэньне іх ніколькі не памяншаецца, бо-ж у іх выразілася воля ўсяго Беларускага Народу да барацьбы за свае суверэнныя правы.

Цікава, ці такія пастановы вынес-бы Усебеларускі Кангрэс, калі-б яго ўдалося, напрыклад, склікаць дзеячам БНЦ падчас бальшавіцкае акупацыі...

Апіраццца сёньня на няіснуючыя Раду ці Урад БНР, адкідаючы П-гі Усебеларускі Кангрэс і прызнаную ім Беларускую Цэнтральную Раду на чале з Прэзыдэнтам праф. Астроўскім, могуць, сапраўды, толькі бязыдэйныя палітычныя авантурысты або сьвядомыя шкоднікі беларускага незалежніцкага руху. Я ўважаю, што такі шлях з праўнага пункту гледжаньня быў-бы вельмі небясьпечным, бо-ж усе ведаюць /акром, відаць, "крывічоў" з-пад знаку БНЦ і "Бацькаўшчыны"/, што Урад БНР ведомай Бэрлінскай Канфэрэнцыяй 20.10.1925 г. /"Решение правительства Белорусской Народной Рэспублікі", падпісанае др. А. Цьвікевічам. Дакумант знаходзіцца ў мяне/ перакрэсьліў усю дзейнасьць Рады БНР, самаліквідаваў-

ся і прызнаў створаную бальшавікамі БССР, пераехаўшы і сам у высьненую ім Беларускую дзяржаву, якая на справе аказалася зманам /Ластоўскі, Цьвікевіч, Заяц, Пракулевіч, Бадунова, Мамонька/, дзе ланой жыцьця усе яны заплацілі за трагічную памылку. Асталіся Крэчэўскі, Грыб, Захарка, якія ўжо таксама ня жывуць. З усіх сяброў Рады БНР астаўся, бадай, адзін я.

Прыймаючы, такім чынам, усё вышэйсказанае пад увагу, усе чэсныя беларусы, незалежна ад іхных палітычных пераконаньняў і незалежна ад таго, ці каму падабаецца праф. Астроўскі, ці не, павінны сьледам за II-ім Усебеларускім Кангрэсам прызнаць, што адзіным праўным прадстаўніцтвам Беларускага Народу і яго Краю сёньня зьяўляецца Беларуская Цэнтральная Рада на чале з Прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім.

Сёньняшнія "дзеячы" з-пад знаку БНЦ закідаюць Беларускай Цэнтральнай Радзе і яе Прэзыдэнту Р. Астроўскаму, "што не беларускае грамадзянства тварыла Беларускую Цэнтральную Раду, але нямецкія ўлады бяз удзелу і ведама гэтага грамадзянства", у той час, калі ніхто іншы, як якраз-жа яны пісалі ў газэце "Раніца" з дня 18.3.1945 г. /№ 14 — 234/ дасло̆ўна наступнае:

"1. Беларуская Цэнтральная Рада да Кангрэсу была фактычна з назначэньня. Яе Прэзыдэнт быў назначаны ў паразуменьні з актывам беларускага грамадзянства Генэральным Камісарам Беларусі. Прэзыдэнт Рады ў сваю чаргу паклікаў яе сяброў. Другі Усебеларускі Кангрэс у сваёй аднагалосна прынятай пастанове, выражаючай волю ўсяго беларускага народу, пацьвердзіў Раду і прызнаў яе на чале з Прэзыдэнтам праф. Р. Астроўскім адзіным поўнапраўным прадстаўніцтвам беларускага народу.

2. Адначасна з гэтым заданьні і кампэтэнцыі БЦР значна пашыраюцца. Другі Усебеларускі Кангрэс даручае БЦР весьці працу і змаганьне за ажыцьцяўленьне беларускіх незалежніцкіх ідэалаў, якія былі выражаны ў пастанове Кангрэсу.

3. Беларуская Цэнтральная Рада да 27.6.1944 г. дзеіла выключна на тэрыторыі Генэральнага Камісарыяту Беларусі і не абыймала яшчэ аграмаднае часьці Цэнтральнай і Усходняй Беларусі, якая ўваходзіла ў ваенную зону, а таксама і вялікай часткі Беларусі Заходняй, якая ў той час адміністрацыйна да Генэральнага Камісарыяту Беларусі не належала. Вось-жа Другі Усебеларускі Кангрэс быў рэпрэзэнтаваны ня толькі дэлегатамі з Генэральнага Камісарыяту Беларусі, але таксама ў ім бралі ўдзел з правам пастанаўляючага голасу дэлегаты з часьці Беларусі, абнятай ваеннай зонай, дэлегаты з Беласточчыны, Гарадзеншчыны і Віленшчыны, а таксама і з беларускай эміграцыі. Такім чынам Кангрэс насіў поў-

масьцю агульнабеларускі характар, і гэтым самым БЦР, будучая выканаўчым органам Кангрэсу, ад гэтага часу становіцца агульнабеларускім народным прадстаўніцтвам, якому беларускі народ даручыў рэпрэзэнтацыю і змаганьне за свае суверэнныя правы".

Нельга заплюшчваць вочы на той факт, што пасьля II-га Усебеларускага Кангрэсу Беларуская Цэнтральная Рада сталася адзіным сапраўдным прадстаўніцтвам Беларускага народу. Адначасна з гэтым задачы і кампэтэнцыі Беларускай Цэнтральнай Рады значна пашыраюцца. Другі Усебеларускі Кангрэс даручае Беларускай Цэнтральнай Радзе весьці працу і змаганьне за ажыцьцяўленьне незалежніцкіх ідэалаў, якія былі выражаны ў пастанове Кангрэсу. Да кампэтэнцыі Прэзыдэнта Беларускае Цэнтральнае Рады, паводле арт. 5 Статуту БЦР, між іншым, належыць "рэпрэзэнтацыя Беларускае Цэнтральнае Рады перад урадамі і нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых дзяржаваў і народаў".

Такім чынам, пасьля II-га Усебеларускага Кангрэсу Беларуская Цэнтральная Рада павінна ператварыцца ў агульнанародны парлямэнт Беларусі, аб чым зусім ясна гаворыць у сваёй прамове 27.6.1944 г. Прэзыдэнт Астроўскі.

І хоць абставіны, у якіх працуе далей Беларуская Цэнтральная Рада, не дазваляюць ёй поўнасьцю рэалізаваць свае пляны, тым ня менш Статут Беларускае Цэнтральнае Рады, прыняты пленумам Рады на сэсіях 14, 15 і 17 студзеня 1945 г., ужо выразна надае Радзе значэньне Парляманту, а Калегіі — значэньне Ураду Беларусі.

Прыняцьце на далейшым этапе Радаю Канстытуцыі Беларускай Рэспублікі, якая, як ведама, ужо была падрыхтавана, было-б канчальным завяршэньнем дзяржаўна-творчае працы ў тых цяжкіх ваенных абставінах, у якіх давялося працаваць Беларускай Цэнтральнай Радзе.

Гэты апошні этап, мне здаецца, якраз надышоў цяпер. Дзякуючы адыходу ад Рады яе бязьдзейнае часткі сяброў, якая выпусьціла з рук зброю, дадзеную ёй II-ім Усебеларускім Кангрэсам і няведама ў імя чаго адкінула ўсё, за што змагалася на Бацькаўшчыне, — Прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады павінен быў-бы папоўніць яе больш ідэйным і выпрабаваным элемэнтам. Прычым, прадстаўніцтва ад беларускіх арганізацыяў і установаў трэба каб было заменена прадстаўніцтвам ад беларускай эміграцыі, выбраным на дэмакратычных падставах. Рэарганізаваная такім чынам Беларуская Цэнтральная Рада сталася-б часовым парляментам Беларус-

кай Рэспублікі, а не Калегія -- Урадам.

Я пераконаны, што, калі чэсна і аб"ектыўна падыйсьці да сёньнешніх палітычных праблемаў нашага жыцьця, можна знайсьці зусім правільнае іх выраашэньне. Нельга забывацца аднаго, -- што ў кожным гістарычным пэрыядзе беларускі народ выяўляў сваю волю да свабоды ў той форме, у якой ён мог гэта рабіць. Гістарычная аб"ектыўнасьць змушае прызнаць, што ў 1917--18 гг. воля Беларускага Народу магла выявіцца і, сапраўды, выявілася ў форме І-га Усебеларускага Кангрэсу; у 1941 -- 44 гг. яна магла выявіцца і,сапраўды,выявілася ў форме ІІ-га Усебеларускага Кангрэсу. А ні чыя партыйная карысьць, а ні нясьведамасьць, ці яшчэ якія-небудзь суб"ектыўныя матывы не зьяўляюцца аргумэнтамі для фальсыфікацыі гісторыі Беларускага Народу.

Усялякая "партызаншчына" ў гэтак важным агульна-нацыянальна-дзяржаўным пытаньні, фікцыйныя рады і ўрады, да нічога добрага не прывядуць. Трэба справу ставіць на моцным, здаровым грунце, з усёй сьведамасьцю, што кожны няправільна пастаўлены крок памсьціцца на нашай нацыянальнай будучыні.

У сувязі з гэтым спроба стварэньня ураду і рады БНР і мэтад яе ўмацаваньня, застасаваны ў адозве БНЦ, паказвае на ўсю палітычную недасьпеласьць яе творцаў.

Палітыку нельга рабіць непаважна, нельга выдумляць творы, якія ня маюць гістарычнага, а тым больш рэальнага абасна-ваньня. Сказанага вышэй хапае, каб пераканацца, што канцэпцыя Рады і Прэзыдэнта БНР у сучаснай іх форме ня маюць пад сабой грунту. Па-першае, сам прынцып спадчыннасьці прэзыдэнта ў рэспубліцы зьяўляецца нечым, з чым няможна пагадзіцца, каб не ўвайсьці ў калізію з рэальнымі асновамі нацыянальна-дзяржаўнага жыцьця. Наступна, сам дакумэнт, на які абапіраецца ўся гэтая канцэпцыя, не дае тых паўнамоцтваў, якія прысвойваюць сабе людзі з-пад знаку БНЦ. Урэшце, сам сьв. пам. Захарка, які даручыў сп. Абрамчыку перахоўваць архіў БНР, ня быў Прэзыдэнтам.

Стаць на становішча канцэпцыі аб правамоцнасьці "прэзыдэнтуры" і абаснаванасьці новастворaных "Рады і Ураду БНР" -- гэта значыць паслугоўвацца нерэальнымі палітычнымі катэгорыямі. Дзіўна і незразумела, чаму пэўнай групе людзей залежыць замалчваць усё, што было асягнута на працягу 30-ці год пасьля І-га Усебеларускага Кангрэсу. А зроблена, сапраўды, шмат, і як-бы той ці іншы не намагаўся, зробленага не перакрэсьліш. Гістарычныя факты сьведчаць аб гістарычным працэсе. Няважна, падабаецца гэта некаму ці не, а ІІ-гі Усебеларускі Кангрэс, пацьвярджаючы палітычныя запаветы І-га Кангрэсу, стаўся выяўленьнем і сфармуляваньнем

нем гістарычнага этапу, які прайшоў Беларускі Народ за час ад 1917 году.

І не дзеля страху перад немцамі, а дзеля любові і адданасьці Беларусі сабраліся ўдзельнікі ІІ-га Кангрэсу ў Менску. І прыйшлі яны нават адтуль, дзе ня была нямецкая нага, дзе фактычна ўлада была ў партызанскіх руках; а ішлі яны праз шляхі, адрэзаныя партызанамі. Іх клікала Беларусь і Беларуская Справа. Шмат хто з удзельнікаў гэтага Кангрэсу загінуў у вайне; але дзе-б яны не ляглі - на прасторах далёкай чужыны, або ў пяскох радзімай зямлі, - іхныя магілы будуць помнікамі гэтых вялікіх дзён нацыянальнага ўздыму.

Гэтага ня змажа ніхто, таксама як ня змажа ніхто Аўтакефаліі нашае Беларускае Царквы, творанае ў аналягічных абставінах.

Прагрэс, які адбыўся ў беларускім жыцьці за 30 год пасьля І-га Усебеларускага Кангрэсу, вялікі. Народ зрабіў вялікі крок наперад да рэалізацыі свае дзяржаўнае незалежнасьці. Ён загартаваўся ў змаганьні за свае нацыянальныя ідэалы, ён прайшоў школу канспірацыі і адкрытага змаганьня ў вайне. А змагаўся ён за тое, што было пастаноўлена І-ым Усебеларускім Кангрэсам і оказана Вялікім Актам 25 Сакавіка 1918 году. Ідэі 25 Сакавіка былі пуцяводнымі агнямі новага пакаленьня беларусаў. Агні гэтых ідэяў вялі нас да акрэсьленае мэты і, верым, прывядуць да яе. У гэтым заслуга творцаў Акту 25 Сакавіка, але і ня меншая заслуга тых, што праз 30 цяжкіх гадоў ішлі самі і вялі іншых да вялікае мэты, азіраючыся на слаўныя выдарэньні мінуўшчыны і ставячы вехі сучаснасьці. Такою вехаю на цяперашнім шляху пілігрымства Беларускага Народу да свае найвялікшае сьвятыні - суцэльнае і суверэннае дзяржавы, - быў другі Усебеларускі Кангрэс. Ня трэба ўстанаўляць ідэйнае цягласьці паміж І-ым і ІІ-ім Усебеларускім Кангрэсам. Яна відавочна кожнаму. Паходні, запаленыя 25-га Сакавіка, былі данесены верна пакаленьнямі да ІІ-га Усебеларускага Кангрэсу і яшчэ раз высака падняты - перад усім народам. Яны гараць і разгараюцца. Нашым заданьнем ёсьць годна несьці іх у будучыню, якая, я ў гэта моцна і нязломна веру, прывядзе да скліканьня ІІІ-га Усебеларускага Кангрэсу ўжо ў Вольнай і Незалежнай Беларусі.

Мікола Шыла -

Сябра Рады
Беларускай Народнай
Рэспублікі.